**УЛАДЗІМІРУ ГУНДАРУ УКРАІНСКІ СЦЯГ НЕ ВЯРНУЛІ**



СУД БАРАНАВІЦКАГА РАЁНА І Г. БАРАНАВІЧЫ ЯГО ЗНІШЧЫЎ

СТАР. 2

# ВЕСНІК ПРАВААБАРОНЧЫ

№ 6 [26] 2014 / 06

**АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ: «Я ВЕДАЎ ЗА ШТО СЯДЖУ...»**

«СЯДЗЕЦЬ ЗА НЕЗАЛЕЖНУЮ БЕЛАРУСЬ – ГЭТА НАРМАЛЬНА»

СТАР. 3



БАРАНАВІЦКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ


ПРАВААБАРОНЦЫ

## САША КУЛАЕВА: ВЫЗВАЛЕННЕ АЛЕСЯ – ГЭТА ЗНАК НАДЗЕІ ДЛЯ ПРАВААБАРОНЦАЎ, ЯКІЯ ПАДВЯРГАЮЦЦА РЭПРЭСІЯМ У ІНШЫХ КРАІНАХ

Кіраўнік аддзела Усходняй Еўропы і Цэнтральнай Азіі Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека (FIDH) Саша Кулаева 23 чэрвеня прыязджала ў Мінск, каб павіншаваць віцэ-прэзідэнта арганізацыі Алеся Бяляцкага з вызваленнем ад імя яго калегаў з розных куткоў свету. *«Вядома, гэта вельмі шчаслівы дзень. Шчаслівы дзень для мяне асабіста, для ўсіх нас, для дзясяткаў, сотняў людзей па ўсім свеце – тых, хто змагаўся за гэтае вызваленне, а такіх людзей было вельмі шмат. Гэта вялікае свята для людзей ва ўсіх краінах Лацінскай Амерыкі, у Азіі, Афрыцы, вядома ж у нашым рэгіёне, ва Усходняй Еўропе, Цэнтральнай Азіі... Але, акрамя гэтага пачуцця свята, ва ўсіх нас ёсць пачуццё горычы – ад таго, што практычна тры гады Алесь быў у зняволенні, чаго не павінна было быць. Я цалкам згодная з тым, што сказаў Алесь падчас сваёй прэс-канферэнцыі: горка яшчэ і таму, што сітуацыя ў цэлым не змянілася. Хоць мы бязмежна шчаслівыя, што ён выйшаў на волю і зноў з намі, але мы памятаем пра ўсіх тых, хто застаецца ў зняволенні, і пра тое, што гэтая рызыка ў Беларусі папярэдняму існуе для ўсіх, хто займаецца праваабарончай дзейнасцю, хто займаецца апазіцыйнай дзейнасцю»*, – сказала Саша Кулаева.



Саша Кулаева з Алесем Бяляцкім. Мінск, 24.06.2014

Прадстаўнік FIDH таксама адзначыла, што вызваленне Алеся Бяляцкага – тое, да чаго імкнуліся вельмі многія, і да ўсеагульнай радасці гэтае вызваленне адбылося на паўтары гады раней менавіта дзякуючы мабілізацыі ўсёй міжнароднай супольнасці.»Не пакладаючы рук за гэта змагаліся ў ЗША, Еўрасаюзе, ва ўсім свеце. І я думаю, што гэта ўсё ж такі перамога. Я ўпэўненая, што гэтае пачуццё падзяляюць вельмі многія».

На працягу ўсяго часу зняволення Алеся Бяляцкага FIDH прыкладала вялікія намаганні не толькі для вызвалення свайго віцэ-прэзідэнта, але і для падтрымкі грамадзянскай супольнасці Беларусі ў цэлым, наладзіўшы кантакты з рознымі яе прадстаўнікамі. Па словах Сашы Кулаевай, беларускі напрамак у працы FIDH будзе развівацца і далей.»Па-за ўсякім сумневам, праца ў гэтым кірунку будзе можа быць і большай, чым раней, паколькі зараз з намі Алесь, а яго энергія, мужнасць і ўпартасць нададуць нам усім яшчэ больш сілаў і надзеі». Вызваленне Алеся Бяляцкага яго калега расцэньвае як знак надзеі не толькі для беларускага, але і для іншых рэпрэсіўных грамадстваў.»Яго вызваленне – гэта таксама вялікі знак надзеі, які паказвае, што нельга апускаць рукі, што нашыя намаганні, няхай яны часам і здаюцца безнадзейнымі, прыносяць свой плён. І я думаю, што як знак надзеі гэта расцэньваюць і тыя, хто яшчэ застаюцца ў зняволенні ў Беларусі, і праваабаронцы, якія ў іншых краінах працягваюць цярпець рэпрэсіі... У апошнія дні мы бачылі, як людзі тэлефануюць адзін аднаму і віншуюць - не толькі Алеся, але і адзін аднаго – з яго вызваленнем. Я думаю, гэтым шмат сказана. Гэта надае мужнасці, гэта надае сілы...

Працы па правах чалавека ў Беларусі яшчэ вельмі-вельмі шмат, і яна безумоўна будзе працягвацца, дзякуючы тым кантактам, якія завязаліся за апошнія гады, і той працы, якая была праведзена, а зроблена было сапраўды нямала... І гэта станоўчы фактар, нягледзячы на агульную трагічнасць сітуацыі, што гэтыя кантакты сталі мацнейшымі. Салідарнасць як на нацыянальным, так і на рэгіянальным, міжнародным узроўні ўмацавалася. І я вельмі спадзяюся, што гэтая салідарнасць будзе выяўляцца і надалей».

Нагадаем, што з 2004 года Праваабарончы цэнтр "Вясна" ўваходзіць у Міжнародную федэрацыю за правы чалавека (FIDH), цэнтральны офіс якой знаходзіцца ў Парыжы. У 2007 годзе Алесь Бяляцкі стаў першым віцэ-прэзідэнтам FIDH з Усходняй Еўропы і двойчы пераабіраўся на гэтай пасадзе – у 2010-м, а таксама ў 2013-м, калі праваабаронца знаходзіўся ў зняволенні.

spring96.org

## Заклікаем улады Беларусі вызваліць усіх палітычных вязняў і распачаць сістэмныя змены, скіраваныя на рэальнае забеспячэнне правоў чалавека

**Заява Праваабарончага цэнтра "Вясна"**

21 чэрвеня з Бабруйскай папраўчай калоніі згодна з Законам "Аб амністыі" быў датэрмінова вызвалены старшыня Праваабарончага цэнтру "Вясна", віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека (FIDH) Алесь Бяляцкі.

Праваабарончы цэнтр "Вясна" вітае вызваленне старшыні арганізацыі, расцэньваючы гэта як праяву палітычнай волі кіраўніцтва краіны і станоўчы крок у накірунку паляпшэння сітуацыі з правамі чалавека ў краіне.

**Пры гэтым Праваабарончы цэнтр "Вясна" адзначае:**

парушэнні правоў чалавека ў Беларусі набылі сістэмны і сістэматычны характар, рэалізацыя грамадзянскіх і палітычных, сацыяльных і эканамічных правоў, гарантаваных Канстытуцыяй Беларусі і міжнароднымі нормамі ў галіне правоў чалавека, носіць скрайне лімітаваны характар, у краіне адсутнічае незалежнае правасуддзе, а іншадумцы падвяргаюцца ціску, запалохванням і пераследу. У турмах краіны працягваюць утрымлівацца палітвязні.

**У сувязі з гэтым Праваабарончы цэнтр "Вясна" звяртаецца да ўладаў Беларусі з патрабаваннем:**

прыняць неабходныя захады, скіраваныя на вызваленне і ўзнаўленне ў правах палітычных зняволеных, якія да гэтага часу застаюцца за кратамі: Мікалая Статкевіча, Эдуарда Лобава, Ігара Аліневіча, Мікалая Дзядка, Васіля Парфянкова, Яўгена Васьковіча і Арцёма Пракапенкі

**з заклікамі:**

устрымацца ад практыкі пераследу прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасці і палітычнай апазіцыі ў сувязі з іх легітымнай, адпавядаючай Канстытуцыі краіны, дзейнасцю дзеля стварэння клімату даверу ў грамадстве;

прыняць захады, скіраваныя на рэальнае забеспячэнне рэалізацыі правоў чалавека, як на ўзроўні заканадаўства, так і правапрымяняльнай практыкі.

*25 чэрвеня 2014 г.*

spring96.org

## Суд адмовіўся вярнуць дзяржаўны сцяг Украіны з-за "прапорцый"




У цэнтры Баранавічаў 4 сакавіка, адзіночны пікет салідарнасці з украінскім народам

Суд Баранавіцкага раёна і г. Баранавічы адмовіўся вярнуць украінскі сцяг Уладзіміру Гундару. Гэта вынікае з ліста за подпісам намесніка старшыні суда Васіля Петрыва, які атрымаў грамадскі актывіст па пошце. У ім паведамляецца, што суд не знайшоў дастатковых падстаў для вяртання сцяга, бо "палотнішча, падобнае на сцяг Украіны, не адпавядае ўстаноўленым прапорцыям".

Уладзімір Гундар лічыць, што суд проста не хоча вяртаць яму сцяг, таму і прыдумалі такі адказ.

– Суддзя Станіслаў Півавар дэманстраваў у судзе мой плакат "Пуцінскія банд-агрэсары, гець з Украіны, прэч з Беларусі", а таксама ўкраінскі сцяг. І ён не казаў, што гэта палотнішча, якое не адпавядае ўстаноўленым прапорцыям, а менавіта ўкраінскі сцяг. А вось намеснік старшыні суда Васіль Петрыў лічыць інакш, – адзначыў Уладзімір Гундар.

Атрымліваецца дзіўная сітуацыя: калі суд хоча пакараць грамадскага актывіста, то лічыць, што ён выкарыстоўваў на пікеце ўкраінскі сцяг. А калі Уладзімір Гундар просіць вярнуць сцяг Украіны, то суд яму адказвае, што гэта ўжо не сцяг, а палотнішча, падобнае на сцяг Украіны.

spring96.org

# «НАРЭШЦЕ СВАБОДНЫ!»

## Фотафакт з Парыжа

ПРАВААБАРОНЦЫ




На партрэце Алеся Бяляцкага ў Парыжы дадаўся надпіс «Нарэшце свабодны!»

Па ўказанні мэра Парыжа Анны Ідальга, на партрэце Алеся Бяляцкага, усталяваным перад будынкам мэрыі 11-й акругі, дададзены надпіс «НАРЭШЦЕ СВАБОДНЫ!». Французская сталіца вітае вызваленне беларускага праваабаронцы - свайго ганаровага грамадзяніна, віцэ-прэзідэнта Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека (FIDH).

Днямі распачынаецца візіт Алеся Бяляцкага ў Парыж, дзе знаходзіцца галоўны офіс FIDH.

Нагадаем, з 2004 года Праваабарончы цэнтр "Вясна" ўваходзіць у Міжнародную федэрацыю за правы чалавека. У 2007 годзе Алесь Бяляцкі стаў першым віцэ-прэзідэнтам FIDH з Усходняй Еўропы і двойчы пераабіраўся на гэтай пасадзе - у 2010-м, а таксама ў 2013-м. У траўні 2012 года падчас акцыі "Парыж за Алеся Бяляцкага!" партрэт палітвязня быў усталяваны перад будынкам мэрыі 11-й акругі (у гэтай акрузе знаходзіцца офіс FIDH), а ў кастрычніку таго ж года мэрыя Парыжа надала Алесю Бяляцкаму статус Ганаровага грамадзяніна горада. 10 снежня мінулага года, у Дзень правоў чалавека, гэтая ўзнагарода мэрыяй Парыжа была перададзена сыну Алеся Бяляцкага, паколькі праваабаронца ўсё яшчэ знаходзіўся ў зняволенні.

spring96.org

ГРАМАДСТВА

# ГАРАДСКАЯ МІЛІЦЫЯ ШУКАЕ ІНІЦЫЯТАРАЎ ПАЕЗДКІ МЯСЦОВЫХ ПРАДПРЫМАЛЬНІКАЎ НА КАСТРЫЧНІЦКУЮ ПЛОШЧУ МІНСКА




У панядзелак 23 чэрвеня індывідуальны прадпрымальнік Мікалай Чарнавус, які працуе на мясцовым кааператыўным рынку, быў выкліканы ў Баранавіцкі гарадскі аддзел унутраных спраў. Капітан міліцыі Сяргей Паўленя правёў з ім індывідуальную размову і ўзяў тлумачэнне на конт плаката з планам дзейнасці баранавіцкіх прадпрымальнікаў на ліпень 2014 года, які з'явіўся 13 чэрвеня кля працоўнага месца Мікалая Чарнавуса. На думку Мікалая Чарнавуса, нечаканае з'яўленне менавіта гэтага плаката з планам правядзення пратэстнай акцыі на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску і стала прычынай гэтай позвы ў ГАУС.

Са слоў грамадскага актывіста стала вядома, што міліцыянт зусім не цікавіўся зместам плакату і чаму, напрыклад, індывідуальныя прадпрымальнікі хацелі наведаць кабінеты мясцовых чыноўнікаў. Найперш капітанам міліцыі Сяргей Паўленя хацеў даведацца імёны тых, хто вывесіў 13 чэрвеня гэты плакат з заклікам да арганізацыі калектыўнага мерапрыемства 3 ліпеня на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску?

У выніку размовы Мікалай Чарнавус паведаміў супрацоўніку міліцыі, што не ведае хто вывесіў плакат з планам дзейнасці баранавіцкіх прадпрымальнікаў на ліпень 2014 года каля яго працоўнага месца. А таксама дадаў, што згодна арт. 27 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь ён мае права не даваць тлумачэнні супраць самога сябе.

Глеб Лушынскі

ПАЛІТВЯЗНІ

# АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ: БЕЛАРУСЬ ПАВІННА БЫЦЬ КРАІНАЙ БЕЗ ПАЛІТВЯЗНЯЎ

Упачатку прэс-канферэнцыі Алесь Бяляцкі сказаў: *«Сядзець за дэмакратычную, незалежную Беларусь – гэта нармальна»*. Ён выкрасліў сваё прозвішча з майкі, дзе напісаныя прозвішчы іншых палітвязняў.

«Мы не павінны баяцца ціску і рэпрэсій. Я ведаў за што сяджу, таму мне сядзелася лёгка. Удзячны дзясяткам тысяч людзей, якія падтрымлівалі мяне. Я ўдзячны беларускім і міжнародным праваабарончым арганізацыям».

«Я спадзяюся, што маё вызваленне – гэта толькі пачатак. Я звяртаюся да беларускіх уладаў, каб на Бяляцкім не скончылася вызваленне палітвязняў. Беларусь павінна быць краінай без палітвязняў. І мы блізкія да гэтага, трэба вызваліць сем палітычных і абвесціць мараторый на затрыманні», – кажа Бяляцкі.

Падставай для вызвалення Бяляцкага стала амністыя. Паводле артыкулу «неадбытая частка тэрміну». «Я чытаў каментары МУС, што яны збіраліся вызваліць па маім крымінальным артыкуле 400 чалавек. Але я быў «злосным парушальнікам». На ўзроўні калоніі мне ніхто нічога патлумачыць не мог. Ясна, што вырашаюць не яны. Вызваленне было нечаканасцю для мяне, яшчэ зранку нічога пра гэта не казала. У нас у калоніі пад амністыю трапіла два чалавекі».

«Зразумела, што артыкул, па якім мяне судзілі, – гэта цалкам палітычны працэс. Яшчэ да арышту было зразумела, што дзейнасць «Вясны» вялікую цікавасць выклікала ў КДБ. Мяне паставілі перад канкрэтным выбарам: ці з'ехаць з краіны, ці заставацца тут і даказваць, што я не вінаваты па прад'яўленых абвінавачаннях.

Улады ставілі перад сабой мэту запалохаць грамадзянскую супольнасць. Ці дасягнулі? Не ў такой ступені, як хацелі. Я не адступаў ад сваіх словаў і дзейнасці. Вызаленне – не ёсць зменай маёй пазіцыі. Гэта ўлады вымушаныя ісці на саступкі, каб нармалізаваць адносіны. Быў і ёсць татальны кантроль над грамадствам. Я ў курсе, які быў ціск на іншых палітвязняў. Нейкіх кардынальных зменаў у грамадстве не бачна.

У мяне няма вялікага задавальнення ад таго, што я выйшаў. Бо прайшло тры гады, а нічога не змянілася ў краіне».

«У нас у калоніі ішлі беларускія і расійскія тэлеканалы, расійскія больш папулярныя. Шалёная расійская ваенная прапаганда, безумоўна, аказвае ўплыў на зняволеных у прыватнасці, і грамадзян краіны ў цэлым. У малых гарадах людзям лёгка задурваць такім чынам галовы».

«Будучыня ў нашых руках. Калі ідуць размовы пра рукі Захаду і ролю ЗША – гэта поўная лухта. Самі беларусы павінны мяняць сітуацыю. У лепшым выпадку нам могуць паспачуваць, але дэмакратыю ніхто не прынясе».

«Выбару, пісаць ці не пісаць прашэнне, у мяне не было. Нават думкі такой не было. Фармальна мне прапаноўвалі два разы напісаць прашэнне на імя Лукашэнкі. Спачатку ў верасні 2011, а пасля ў студзені 2014 пасля прэс-канферэнцыі Аляксандра Лукашэнкі. У калоніях шмат што не гаворыцца на словах, але цябе падштурхоўваюць сваімі ўчынкамі, нейкімі дробнымі правакацыямі, абмежаваннямі».

«Усялякія размовы пра пацяпленне з Захадам можна толькі пачынаць пасля вызвалення ўсіх палітвязняў. Не можа быць сітуацыя, як у Азербайджане. У нас мусіць быць зона без палітвязняў. Мы не павінны скатвацца на сітуацыю бясправўя і беззаконня».

«З'язджаць я не збіраюся, мне тут вельмі камфортна. Я, можа, старэю, але мне важная атмасфера беларускага грамадства. На Захадзе ты адчуваеш сябе не ў сваёй талерцы».

«Я буду займацца па меры магчымасці праваабарончай дзейнасцю. Гэта будзе асноўная мая праца. Буду далей пісаць, на зоне распісаўся. Пісаў і літаратуразнаўчыя артыкулы, і эсэ».

«Умовы ўтрымання ў турме ў палітвязняў асобныя: ізаляцыя ад іншых асуджаных (калі з табой павітаюцца, то ў атрадзе чалавек знікае). Атрад ачысцілі ад тых, хто падпісаны на «Народную волю», калі я там з'явіўся. Псіхалагічна гэта ціснe, калі іншыя цябе палохаюцца, шугаюцца. Да гэтага, зрэшты, можна прыстасавацца».

«Абмежаванні да мяне будуць. Сёння я стану на ўлік у міліцыю, тады і даведаюся».

«У мяне ніколі не было жадання пайсці ў прэзідэнты і цяпер няма. Па-першае, я нарадзіўся ў Расіі. Па-другое, я не бачу сябе як палітычнага дзеяча. Грамадская дзейнасць сёння больш актуальная нават за палітычную. У нас шмат кандыдатаў у прэзідэнты, сцяг ім у рукі».

«Расія – гэта еўрапейская краіна, і раней ці пазней яна далучыцца да еўрапейскіх краін. Вырашэнне беларускага ці ўкраінскага пытання магчымае толькі ў звязку са зменамі ў Расіі».

Зміцер Панкавец
spring96.org

## Бацька Мікалая Статкевіча не верыць у датэрміновае вызваленне сына



Прадстаўнікі грамадскіх арганізацый і палітычных партый горада 22 чэрвеня наведалі Статкевіча-старэйшага. Тэма вайны, якую перажыў Віктар Паўлавіч, заўсёды займала і займае па сёняшні дзень вялікае месца ў яго асабістым жыцці. У такі дзень заўсёды ёсць аб чым пагаварыць і ўспомніць жахлівыя старонкі ваеннага жыцця.

Але найперш, безумоўна, гаварылі пра вызваленне Алеся Бяляцкага і магчымыя варыянты датэрміновага вызвалення экс-кандыдата ў прэзідэнты Мікалая Статкевіча, які адбывае 6-гадовае пакаранне ў Магілёўскай турме № 4. Віктар Паўлавіч шчыра парадаваўся вызваленню Алеся Бяляцкага, але ён не верыць у датэрміновае вызваленне сына Мікалая.

– Мы імкнуліся падтрымаць Віктара Паўлавіча маральна і абнадзеіць, што сёння-заўтра могуць выйсці на волю іншыя палітвязні, у тым ліку і Мікалай Статкевіч, – паведаміў праваабаронца Сяргей Гоўша.

Усе пагадзіліся, што надзея не памірае, пакуль мы – жывыя.

Вітусь Свабодскі

## Індывідуальныя прадпрымальнікі Баранавічаў адмаўляюцца выходзіць на працу 1 ліпеня



Страйк Баранавіцкіх прадпрымальнікаў 1 ліпеня 2013 года перад будынкам гарадской падатковай інспекцыі

Сто індывідуальных прадпрымальнікаў мясцовага каапрынка накіравалі заяву ў Баранавіцкі райвыканкам і ў адміністрацыю раённага спажывецкага таварыства. У дакуменце гаворыцца, што яны адмаўляюцца выходзіць на працу 1 ліпеня, а таксама плаціць арэндную плату за перыяд прастоя. Такім чынам яны выказалі сваё незадавальненне ўказам Прэзідэнта № 222 аб рэгуляванні прадпрымальніцкай дзейнасці.

Спрэчкі аб далейшым вядзенні бізнесу на Баранавіцкім каапрынку вядуцца ўжо не першы год, асабліва яны абвастрыліся з моманту падпісання ўказа № 222. Адныя прадпрымальнікі абураныя тэрмінам, да якога ім неабходна рэалізаваць несертыфікаваную прадукцыю. Іншыя зусім не разумеюць, чаму такі ўказ не дзейнічае ў краінах Мытнага саюза, а толькі ў Беларусі. Трэція не ведаюць, як ім сябе паводзіць у склаўшыхся ўмовах.

Аднак індывідуальныя прадпрымальнікі Баранавіцкага каапрынку настроены рашуча і спадзяюцца, што 1 ліпеня іх падтрымаюць ІПэшнікі Палескага і Аляксееўскага рынкаў.

Глеб Лушынскі

ПРАВАВАЯ АДУКАЦЫЯ

# АКТЫВІСТЫ ВУЧЫЛІСЯ АБАРАНЯЦЬ СВАЕ ПРАВЫ Ў КРЫМІНАЛЬНЫМ ПРАЦЭСЕ

У Баранавічах 21 і 22 чэрвеня адбылося навучанне па крымінальнаму праву і працэсу, у якім прынялі ўдзел праваабаронцы з Мінску і мясцовыя актывісты палітычных партый і грамадскіх арганізацый. Удзельнікі навучання абмеркавалі асаблівасці цяперашняй судовай практыкі, разглядзелі выпадкі, у якіх прадугледжваюцца такія віды пакарання, як штраф, папраўчыя работы, арышт, абмежаванне ці пазбаўлення волі, смяротнаепакаранне. Сярод удзельнікаў навучання не было прафесійных юрыстаў, таму было вельмі цікава даведацца, напрыклад, чым адрозніваецца допыт сведкі ад допыту падследнага, “ілжывыя паказанні” ад “заведама ілжывых”.

Найбольшую цікавасць выклікалі спрэчкі і праблемы, звязаныя з артыкулам 193.1 Крымінальнага права, які прадугледжвае крымінальную адказнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі. Вельмі цікавай была і практычная частка заняткy, калі ўдзельнікі навучання выконвалі ролі супрацоўніка праваахоўных органаў і ўдзельніка масавага мерапрыемства, суддзі і фізічнай асобы, у адносінах да якой узбуджана крымінальная справа.

– Сёння ўсе мы змаглі ўпэўніцца, што нават грамадскія актывісты з вялікім вопытам працы недастаткова ведаюць крымінальнае права і працэс, яны робяць недапушчальна-паспешныя памылкі пры ўзаемадзеянні з прадстаўнікамі праваахоўных органаў. Зразумела, калі мы добра ведаем законы, то гэта надае нам упэўненасць і смеласць пры



абароне сваіх правоў. Таму падчас навучання мы імкнуліся атрымаць не толькі веды па крымінальнаму праву, але і навучыцца імі карыстацца на практыцы, – адзначыў актывіст Руху “За свабоду” Віктар Сырыца.

Удзельнікі навучання прынялі ўдзел таксама ў дыскусіі па праблеме смяротнага пакарання, якую арганізаваў праваабаронца Андрэй Палуда. Яны атрымалі ў падарунак дыск з альбомам “Апошні золак”. Гэты музычны праект створаны беларускімі музыкамі Змітром Вайцюшкевічам, Аляксандрам Памідоравым, Лявонам Вольскім, Ганнай Хітрык і іншымі, прысвечаны праблеме існавання на Беларусі смяротнага пакарання. Удзельнікі мерапрыемства выказалі надзею, што гэты вельмі якасны і таленавіты музычны праект падштурхне нашых грамадзян задумацца пра неабходнасць адмены смяротнага пакарання.

Вітусь Свабодскі

ТАЛАКА

## КАЛЯ МІЛАВІДСКІХ ПОМНІКАЎ АКТЫВІСТЫ ЎПАРАДКАВАЛІ ТЭРЫТОРЫЮ

Напярэдадні 151-х угодкаў Мілавідскай бітвы, 2 чэрвеня, баранавіцкія прадстаўнікі грамадскіх арганізацый упарадкавалі тэрыторыю вакол помнікаў у гонар паўстанцаў Кастуся Каліноўскага, якія далі бой царскаму войску падчас паўстання 1863 года.

Старшыня Баранавіцкай рады Таварыства беларускай мовы Віктар Сырыца паведаміў, што яны не проста наведалі помнікі, а высадзілі каля іх кветкі і прыбралі тэрыторыю вакол помнікаў ад смецця.

– Мы нічога грандыёзнага не праводзілі, а прыехалі сюды, каб добраўпарадкаваць тэрыторыю. На жаль, нам вельмі перашкодзіў дождж, – адзначыў Віктар Сырыца.

Па яго словах, удзельнікі талакі ўбачылі, што ні мясцовыя, ні раённыя ўлады нічога не прадпрымаюць, каб тэрыторыя каля мілавідскіх помнікаў



была добраўпарадкавана. Асабліва непрыемна, што вакол помнікаў расце высокая трава, якую ніхто не абкошвае.

Таму грамадскія актывісты вырашылі прыехаць яшчэ раз, каб абкасіць траву.

spring96.org

**“ПРАВААБАРОНЧЫ ВЕСНІК”** Баранавіцкі інфармацыйны праваабарончы бюлетэнь
**Калі парушаны вашыя правы, маеце пытанні, заўвагі ці прапановы – звяртайцеся.**
Дапамога бясплатная. Нашы кантакты: тэл. 8 029 7220957, e-mail: viasna_bar@tut.by
Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад 299 асобнікаў.
весnік PRAVA БАРОНЧЫ